ЗАХОДНЕБЕЛАРУСКАЯ ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 33 (132) 1 - 7 верасьня 1995 г. Кошт 600 рублёў

РЭФЕРЭНДУМ БУДЗЕ АДМЕНЕНЫ - ст. 2.

БЕЛАРУСІ НЕАБХОДНЫ САПРАЎДНЫЯ РЭФОРМЫ - ст. 3.

ВЫВОЗЯЦЬ ЗЕРНЕ У РАСЕЮ - ст. 4.

ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ: Менск - Варшава - Масква - Санкт-Пецярбург.

## «ПАРТА ШКОЛЬНАЯ МНЕ СЬНІЦЦА...»

**Прачнуўшыся ад жудаснага хваляваньня за нявывучаны ўрок, я ўжо больш не заснула. Бо з вуліцы цягнула сьвежасьцю і сьпелымі яблыкамі. Бо закончыўся жнівень - мой любімы месяц. Бо з неба сыпаліся зоркі. Бо заўтра пачыналася восень і новы навучальны год...**

Я вазьму ў сваю руку даверлівую маленькую ручку сына, і мы разам пакрочым да знаёмага будынку (Цікава, хто з нас будзе хваляваўцца больш? Мабыць, я...)

«Дзень добры, школа!» - скажам мы. Няўрымсьлівы Алёшка, убачыўшы любімую Галіну Іванаўну і сяброў-аднакласьнікаў, растварыцца ў стракатым натоўпе. А я застануся адна. Сам-насам са сваімі ўспамінамі. Прайду па знаёмых калідорах. Пастаю ля настаўніцкай. Мой 10 «Б» разьвітаўся з гэтай школай 16 год таму...



Верасьнёўскія матывы.

У віры дзён і падзей мы так рэдка ўспамінаем, што ёсьць гэты цуд -дзяцінства, напоенае пяшчотай і сьвятлом, ёсьць школа, першая настаўніца, школьныя сябры. Памятаеце? Перш, чым стаць кімсьці, усе мы былі проста вучнямі. Мы яшчэ ня ведалі, што давядзецца разьвітацца са сваімі ідэаламі, што дабро не заўсёды перамагае зло, і жыцьцё -рэч вельмі жорсткая. Ва ўсіх нас былі Пунсовыя ветразі...

Мы пісалі пісьмы ў мінулае стагоддзе Базараву і абвінавачвалі Анегіна ў нежаданьні па-сапраўднаму кахаць, выказвалі салідарнасьць патрыётам Чылі і ўпотай пісалі вершы. І ці маглі ўявіць, што з нас, легкадумных, атрымаюцца лекары і педагогі, лётчыкі і фінансісты, падводнікі і аграномы, інжынеры і прадпрымальнікі, чыгуначнікі і заатэхнікі, артысты і журналісты?! Пра гэта ведалі толькі нашы настаўнікі. Бо для іх мы былі адкрытай кнігай, старонкі якой пісалі яны самі.

Настаўнікі вялі нас ад дзіцячых каракуляў, няўмела напісанага слова «мама» да сачыненьняў на філасофскія тэмы, ад найпрасьцейшага складваньня лічбаў да формулы Герона, ад «Чырвонай шапачкі» да раманаў Караткевіча. Але, бадай, самае галоўнае, чаму яны вучылі нас - любіць Радзіму.

...Я ніколі не абвінавачу сваіх старых настаўнікаў у няшчырасьці і недальнабачнасьці. Яны верылі ў тое, чаму вучылі нас. Непатрэбнае, наноснае забылася само па сабе. А галоўнае засталося: маральны стрыжань, некалі закладзены педагогамі ў нашыя душы, вытрымлівае ўсе жыцьцёвыя цяжкасьці.

Таму і ў трыццаць пяць, і ў сорак, і ў пяцьдзесят мы будзем прыходзіць сюды, у нашу школу, каб зноў пераўтварацца ў Сьветак, Кацяў, Сашкаў, Сярожкаў, Віцяў... Таму доўгія гады ўсім нам будуць сьніцца школьная парта і любімы ўрок... Таму як бы ні склаўся наш далейшы лёс, мы будзем любіць гэтую зямлю, якая называецца Беларусь, з заміраньнем сэрца вяртацца ў сваю родную школу і гаварыць: «Дзень добры, школа! Дзень добры, наш дом!»

**Ала БІБІКАВА.**
**Фота Б.МЕШЧАРАКОВА.**

## АКАЗВАЕЦЦА, ЗА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ ТРЭБА ПЛАЦІЦЬ

**На пачатак навучальнага года крытычная сітуацыя склалася ў школах Горадні з беларускамоўнымі класамі. Цяпер ужо можна з упэўненасьцю сказаць пра мэтанакіраваную кампанію па вынішчэньню беларускага школьніцтва. Паказальным зьяўляецца становішча ў 10-й сярэдняй школе з ангельскім ухілам. Тут беларускія класы зьліквідаваны ўвогуле.**

Нягледзячы на тое, што дзеткі ўжо навучаліся на роднай мове і на наяўнасьць бацькоўскіх заяў у першы клас, дырэктарка сп.Касьяновіч заняла непрабівальную пазіцыю. Відаць, шаноўны педагог лічыць несумяшчальнай ангельскую мову з беларускай. Адна з высокапастаўленых асобаў з гарана нават заявіла, што за навучаньне на беларускай мове трэба плаціць.

Большасьць бацькоў проста зьбіта з панталыку пад ціскам хлусьлівай прапаганды. Асноўны акцэнт пры гэтым робіцца на выніку прэзідэнцкага рэферэндуму, што выглядае зусім абсурдным. Па-першае, ягоныя вынікі ня маюць пакуль сілы закону. Па-другое, нават пасьля ратыфікацыі, яны не касуюць дзяржаўнасьці беларускай мовы і права выбару навучаньня.

**Уладзімір МАЙНІЧ.**

## КАБ БАЯЛІСЯ!

**Заварыўшы кашу з адменай падручнікаў, Лукашэнка зусім нечакана выявіў дзіўную зьяву. Аказваецца, дзяржава і саўгас - гэта розныя рэчы.**

У саўгасе можна спачатку баранаваць, а пасьля араць, а ў дзяржаве гэта цяжэй. Адмяніць адны падручнікі, не выпусьціўшы іншых, аказалася не пад сілу нават «бацьку». Але «бацька» ён і ёсьць «бацька» і вінаватым за тое, што чарговы раз з усёй камандай пляснуўся ў лужыну, быць ня можа. Але вінаватыя быць павінны, бо «пырскі» надта ж вялікія. А калі павінны, дык чаго іх тут доўга шукаць. Раз, і зьнялі двух намесьнікаў міністра адукацыі, ды колькі дробных клеркаў. За што? А каб баяліся!

Чаму не зьнялі самога міністра? Здымуць, калі высьветляць, што для масы новых рускамоўных класаў, якія на злосьць Пазьняку паадчынены на ўсёй Беларусі, няма нават «Буквароў».

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

## ЖАНЧЫНЫ КАЖУЦЬ «БАСТА»!

**У перадзабастовачным стане знаходзіцца жаночы калектыў Кобрынскага тэкстыльнага вытворчага аб'яднаньня.**

Рабочыя ўжо чацьвёрты месяц працуюць без зарплаты, іх адпраўляюць у адпачынкі й ня плацяць адпускных - карацей, тая ж карціна, што назіраецца па ўсёй «запушчанай» Беларусі. Прадпрыемства яшчэ неяк трымаецца на плаву, таму што гатовай прадукцыяй разьлічваецца за сыравіну. Дарэчы, вырабы першага сорту тут часта ўмудраюцца ткаць з трэцьцясортнай сыравіны. Можа, таму й удаецца ўтрымацца?

**ЯГОРЫК.**

## ПРАДСТАЎНІКІ СПБ ПАЧАЛІ ПІКЕТАВАНЬНЕ

Магілёўская абласная рэгіянальная арганізацыя Свабоднага прафсаюзу Беларусі прыняла рашэньне пачаць калектыўныя працоўныя канфлікты на ўсіх прадпрыемствах вобласьці, дзе ёсьць арганізацыі СПБ. Гэта будзе рабіцца тады, калі хаця б у нечым адміністрацыя гэтых прадпрыемстваў парушае калектыўныя дагаворы. Акрамя таго, з 28 жніўня прадстаўнікі Свабоднага прафсаюзу пачалі пікетаваньне гэтых прадпрыемстваў.

**СІМ**

## ІТАЛІЮ ПАД АБЦАС

**На наступным тыдні на лідзкую абутковую фабрыку паступіць з Італіі сыравіна для вырабу жаночых зімовых боцікаў на футры. Італьянцы будуць забясьпечваць прадпрыемства матэрыяламі, прэс-формамі, а лідчане на сваіх вытворчых плошчах і сваімі сіламі будуць выпускаць прадукцыю.**

Згодна з папярэдняй дамоўленасьцю, з 80 тысяч пар абутку 40 тысяч паедзе ў Італію і 40 тысяч застануцца ў Лідзе, калі гэта будзе выгадна фабрыцы.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**



## НАСТАЛЬГІЯ ПА МІНУЎШЧЫНЕ - ХВАРОБА НЕВЫЛЕЧНАЯ

**З ранку па Шчучыне пранеслася навіна: нейкая кабета стаіць на каленях ля помніка Леніну. Людзі сьпяшаліся пабачыць: «Ну, нарэшце, прачнуліся і ў нас! Мітынгаваць пачалі!»**

Накрапваў дождж. Зьбіраліся цікаўныя. З Дому Саветаў выходзілі мясцовыя кіраўнікі. Падыходзілі міліцыянты. Усіх цікавіла адно: што падштурхнула жанчыну на неардынарны ўчынак, якія прэтэнзіі яна прад'яўляе, якія пазіцыі адстойвае.

«Хачу, каб не было вайны. Каб усе людзі жылі ў міры. Каб аб'ядналіся пятнаццаць рэспублік...»

- А хто Вы па нацыянальнасьці? Мо Вас пакрыўдзіў хто?

- Я ўкраінка. І ніхто мяне тут ня крыўдзіць. Але хачу, каб усе народы жылі адной сям'ёй... Як раней...

...Побач была царква. Таму многія прапаноўвалі кабеце схіліць калені перад Богам, а не перад чалавекам, які патапіў у крыві тысячы бязьвінных суайчыньнікаў. Тым больш, што яна лічыла сябе чалавекам веруючым і трымала ля сябе сумку з абразком, які зьбіралася падарыць царкве.

На жаль, царква была зачынена. Ды й муж падасьпеў. Сьцьвярджаючы, што яго жонка не зусім здаровы на галаву чалавек, ён пры дапамозе мясцовых вартаўнікоў правапарадку забраў сваю «палову» да дому.

**І.ВЫШЫВАНКА.**

 



# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## РЭФЕРЭНДУМ БУДЗЕ АДМЕНЕНЫ

**Днямі, абласное радыё рабіла «круглы стол» з лідарамі палітычных партый, якія дзейнічаюць у Горадні. Ад Беларускага Народнага Фронту ў перадачы ўдзельнічаў прафесар медінстытута, доктар медыцынскіх навук Алесь Астроўскі.**

**Нам падалося, што пытаньне радыёслухача і адказ на яго, будуць цікавы таксама і чытачам «Пагоні».**

**ПЫТАНЬНЕ: Чаму Астроўскі за беларусізацыю? Быў рэферэндум, які паказаў, што людзі за рускую мову.**

А.АСТРОЎСКІ: Мы - за беларусізацыю таму, што беларусізацыя - гэта нармалізацыя, гэта вяртаньне нашага грамадзтва да нармальнага стану пасьля 200-гадавога навязваньня чужой волі. Вазьміце любую цывілізаваную краіну, народ якой жыве на сваёй гістарычнай тэрыторыі. Ва ўсіх гэтых краінах рэалізаваны прынцып: ёсьць народ і гэты народ мае, як сваю дзяржаву, так і сваю культуру. Вось гэта норма. Так і павінна быць.І так будзе ў нас на Беларусі, што б не жада-лі зрабіць носьбіты тых ці іншых варыянтаў імперскай ідэі.

Што датычыцца адбыўшагася нібыта рэферэндуму, дык трэба адзначыць, што ПА-ПЕРШАЕ, ня трэба правяраць сутнасьць фармуліроўкі першага пытаньня. Яно было зьвязана не з заменай беларускай мовы на рускую, а, як усе памятаюць, з наданьнем рускай мове такога ж статусу, як у беларускай. Гэта значыць, што беларуская мова, нават пасьля рэферэндуму, як была, так і засталася на Беларусі ПЕРШАЙ ДЗЯРЖАЎНАЙ мовай з усімі вынікаючымі адсюль наступствамі.

ПА-ДРУГОЕ, гэтая акцыя (я маю на ўвазе рэферэндум, асабліва два яго першыя пытаньні) была АМАРАЛЬНАЯ. Уявіце сабе: 200 год навязвалася руская мова. Людзям не давалі вучыцца на роднай, беларускай мове, забаранялі яе выкарыстаньне ў важнейшых сьферах грамадзкага жыцьця, носьбітаў нацыянальна-культурніцкіх ідэй проста фізічна зьнішчалі (напрыклад, у 20-40-я гады пад выглядам барацьбы з гэтак званай нацдэмаўшчынай было зьнішчана больш 90% Саюзу пісьменьнікаў Беларусі, нават, Янка Купала быў забіты ў 42-м годзе), у часы Хрушчова і па яго загаду беларускія школы пераводзіліся на рускую мову навучаньня нават па сярэдзіне навучальнага года, і гэтак далей. Ў што, пасьля ўсяго гэта маральна пытацца ў народа што-небудзь пра мову?

Вось калі б прайшло хаця б 20-40 год нармальная беларусізацыя, тады б яшчэ аб нечым можна было казаць.

А так, пастаноўку моўнай праблемы на рэферэндум трэба лічыць проста амаральным, ганебным актам.

ПА-ТРЭЦЯЕ, вынясеньне праблемы статусу мовы, адносін да сімволікі было антызаконным. Паколькі ў адпаведнасьці з законам пытаньне аб правядзеньні рэферэндуму за поўгода да выбараў ВС на паседжаньні ВС разглядаецца ня можа. Больш таго, зноў жа па закону першыя два пытаньні на рэферэндум увогуле не выносяцца.

ПА-ЧАЦЬВЕРТАЕ, на рэферэндум не выносіцца адразу столькі пытаньняў, колькі было. Выносіцца адно, максімум два пытаньні, каб людзі маглі добра ў кожным разабрацца і прыняць дакладнае рашэньне.

Самі пытаньні павінны быць сфармуляваны так, каб была альтэрнатыва, бо нашыя людзі, ўсё жыцьцё галасаваўшыя «за» баяцца галасаваць «супраць». Трэба, каб было напісана:

- вы за тое, каб беларуская мова заставалася адзінай дзяржаўнай мовай на тэрыторыі Беларусі?

- ці вы за тое, каб руская мова набыла такі ж статус, як беларуская?

ПА-ПЯТАЕ, у перыяд агітацыі адносна пытаньняў рэферэндуму быў прадстаўлены толькі адзін пункт гледжаньня, што трэба галасаваць «за». Успомніце - па дзьве, а то і тры гадзіны выступаў прэзідэнт, успомніце двойчы паказаны ілжывы, паклёпніцкі фільм пра БНФ і беларускія нацыянальныя сімвалы, якім дарэчы не 50 гадоў, а ледзь не 1000.

Супрацьлеглых жа поглядаў па-сутнасьці прадстаўлена не было. У выніку народ быў падмануты.

Нарэшце, ШОСТАЕ. Рэферэндум не адбыўся.

Справа ў тым, што на тых выбарчых акругах, дзе вёўся (дзякуючы ў асноўным прадстаўнікам БНФ) добры кантроль ходу галасаваньня (у Менску, Горадні, Лідзе) высьветлілася, што на рэферэндум прыйшло 40-45% выбаршчыкаў. Мы дакладна ведаем, што на тых (у асноўным сельскіх акругах) дзе нібыта прыйшло 70-80% выбаршчыкаў, такія лічбы дасягаліся дзякуючы фальсіфікацыі.

Таму ,мы, прадстаўнікі БНФ, з-за ўсіх пералічаных вышэй акалічнасьцяў (а, дарэчы, у нармальным грамадзтве дастаткова было б і адной), не прызнаём вынікаў так званага рэферэндуму. Больш таго мы заяўляем, што адносіны да рэферэндуму становяцца крытэрыем нармальнасьці любога парламанту. Так, напрыклад, калі існуючы ВС прызнае прайшоўшы рэферэндум, гэта будзе азначаць, што законнасьць, маральнасьць, справядлівасьць большасьцю членаў ВС ігнаруюцца. Калі ж існуючы ВС прызнае такі рэферэндум, ён усё роўна будзе адменены першым жа нармальным парламантам.

## ЗАТРЫМАЛІ ПІКЕТЧЫКАЎ

28 жніўня ля будынка прэзідэнцкай адміністрацыі былі затрыманы 5 прадстаўнікоў Свабоднага прафсаюзу Беларусі а таксама лідар беларускай Сацыял-Дэмакратычнай грамады Мікола Статкевіч. Акцыя пачалася ў 11 гадзін. Віцэ-старшыня СПБ М.Зімін, сябры СПБ А.Гайло, В.Бусько, С.Валавік, Д.Курлоўскі трымалі плакаты з надпісамі «Патрабуем вызваліць незаконна затрыманых Быкава, Макарчука і Канаха», а таксама «Патрабуем аднавіць на працы незаконна звольненых работнікаў метрапалітэну». Лідар БСДГ патлумачыў свой удзел у пікетаваньні нежаданьнем мірыцца з парушэньнем правоў чалавека на Беларусі.

У 11.30 да пікетуючых пачалі падыходзіць міліцыянты, якія ахоўваюць будынак прэзідэнцкай адміністрацыі, з патрабаваньнем ачысьціць пляцоўку. Пікетчыкі праігнаравалі яго, пасьля чаго да месца правядзеньня акцыі пад'ехалі міліцэйскія машыны. У 12.05 удзельнікаў пікету пасадзілі ў машыны і павезьлі.

Як паведамілі ў штаб-кватэры БСДГ, затрыманых даставілі ў Ленінскі РАУС сталіцы. Пратрымаўшы каля паўгадзіны, іх адпусьцілі, не склаўшы пратакола.

## «САЛІДАРНАСЬЦЬ» НАПІСАЛА ЛУКАШЭНКУ

23 жніўня ўсяпольская камісія прафаб'яднаньня «Салідарнасьць» накіравала адкрыты ліст у адрас А.Лукашэнкі. У ім польскі прафсаюз абвяргае абвінавачаньні ў свой адрас аб інсьпіраваньні падзей, зьвязаных з забастоўкай на Менскім метрапалітэне.

Адначасова ў лісьце выражаны пратэст супраць незаконных арыштаў прафсаюзных актывістаў Г.Быкава, У.Макарчука і М.Канаха.

**СІМ**

## АБЛАСНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ БНФ

**26 жніўня ў Лідзе прайшла справаздачна-выбарчая канферэнцыя Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» Гарадзенскай вобласьці. На канферэнцыі прысутнічалі дэлегаты ад 13 арганізацый БНФ з 24 зарэгістраваных у вобласьці.**

Канферэнцыя заслухала справаздачу старшыні абласной Рады, разгледзела пазіцыі абласной арганізацыі напярэдадні выбараў, абрала кіраўніцтва абласной арганізацыі БНФ. Старшынёй Гарадзенскай абласной Рады БНФ «Адраджэньне» зноў абраны Мікола Баўсюк, намесьнікамі абраныя Міхась Ешчын з Горадні і Станіслаў Суднік з Ліды. Сябрамі Сойму БНФ «Адраджэньне» абраны Мікола Баўсюк і старшыня Гарадзенскай гарадзкой рады БНФ Кастусь Жынь.

Прынята рашэньне прыступіць да стварэньня ў вобласьці маладзёжнай арганізацыі БНФ.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА АБВІНАВАЦІЎ ГЕНАДЗЯ КАРПЕНКУ

**22 жніўня ў інфармацыйнай праграме беларускага тэлебачаньня быў паказаны ўрывак інтэрв'ю журналіста з Краснаярску Генадзя Мікалаева з Аляксандрам Лукашэнкам. У ім прэзідэнт Беларусі, гаворачы пра дасягнутыя з Узбекістанам пагадненьні аб пастаўках хлопку, абвінаваціў беларускіх палітыкаў на чале з Генадзем Карпенкам у тым, што яны перашкаджалі пастаўцы хлопку ў рэспубліку. Па словах Аляксадра Лукашэнкі, гэтых людзей выкрыла контрразьведка.**

Наш карэспандэнт зьвярнуўся да Генадзя Карпенкі з просьбай пракаментаваць словы прэзідэнта. Спадар Карпенка сказаў, што «дадзеная заява мае правакацыйны характар, скіравана на дыскрэдытацыю мяне як грамадзяніна Беларусі і прыніжае мой гонар і годнасьць». У сувязі з гэтым, Генадзь Карпенка падаў у суд іск аб абароне гонару і годнасьці, у якім патрабаваў ад Аляксандра Лукашэнкі кампенсацыі маральнага ўрону ў памеры 2 мільярдаў беларускіх рублёў. Спадар Карпенка паведаміў таксама, што ніколі ня меў спраў з хлопкам, і ня ведае нават як ён расьце.

Начальнік контрразьведкі КДБ Уладзімір Абламскі за каментарамі накіроўваў журналістаў у прэс-службу камітэту, аднак зьвязацца з ёй ня ўдалося з прычыны адсутнасьці супрацоўнікаў прэс-службы на працоўным месцы.

## ЛІДАРЫ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ АПАЗІЦЫІ ЗЬВЯРНУЛІСЯ ЗА ПАДТРЫМКАЙ ДА АМЕРЫКАНСКІХ І РАСЕЙСКІХ ПАЛІТЫКАЎ

**Лідар Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк, каардынатары дэмакратычнай апазіцыі ў Вярхоўным Савеце Сяргей Навумчык і Валянцін Голубеў 23 жніўня распаўсюдзілі заяву. Яна адрасавана прэзідэнту ЗША Білу Клінтану, членам Кангрэсу ЗША, прэзідэнту Расейскай Федэрацыі Барысу Ельцыну, дэпутатам Дзяржаўнай Думы Расеі.**

У заяве, у прыватнасьці, адзначаецца: «Зьвяртаемся да Вас у сувязі з пагрозай дэмакратыі ў Рэспубліцы Беларусь. Парушаюцца правы чалавека, абмежаваны свабода слова, згуртаваньняў, мітынгаў. Сістэматычна парушаюцца Канстытуцыя і законы краіны. Найбольш выразна гэта выявілася 12 красавіка, калі ў залу парламанту па распараджэньні прэзідэнта Лукашэнкі былі ўведзены войскі і зьбіты дэпутаты дэмакратычнай апазіцыі. 21 жніўня арыштаваны лідары рабочага руху. У гэты ж дзень без прад'яўленьня абвінавачаньня быў схоплены прадстаўнікамі ўлады аўтар дакладу аб карупцыі ў адміністрацыі прэзідэнта дэпутат парламанту Сяргей Антончык. Тры дні Антончык гвалтоўна ўтрымліваўся ў ізаляцыі на тэрыторыі часткаў Унутраных войск і ні дэпутаты, ні яго сям'я ня мелі зьвестак пра яго месца знаходжаньня. Да сёньняшняга дня невядомае месца знаходжаньня лідара Свабоднага прафсаюзу Генадзя Быкава і іншых актывістаў рабочага руху, затрыманых 21 жніўня.

Па словах першага намесьніка Генеральнага пракурора, прэзідэнт Лукашэнка падпісаў Указ аб зьняцьці дэпутацкай недатыкальнасьці. Гэты ўказ супярэчыць Канстытуцыі і законам краіны. Узьнікла рэальная пагроза расправы ня толькі над лідарамі дэмакратычнай апазіцыі, але і над усімі грамадзянамі Беларусі, якія выражаюць нязгоду з праводзімай прэзідэнтам палітыкай», - адзначаецца ў заяве.

## У ЗАКОН АБ ГРАМАДЗЯНСТВЕ МЯРКУЕЦЦА ЎНЕСЬЦІ ЗЬМЕНЫ

**Адбылася прэс-канферэнцыя, на якой былі абвешчаны зьмены ў законах, якія рыхтуюцца і будуць выносіцца на разгляд чарговай сесіі Вярхоўнага Савету. Сакратар парламанцкай камісіі па міжнацыянальным зносінам і справам СНД Уладзімір Грыбанаў паведаміў, што камісіяй падрыхтаваны зьмены і дапаўненьні, якія тычацца закона аб грамадзянстве.**

Найбольш прынцыповыя зьмены тычацца павялічэньня цэнзу аседласьці (неабходнага для прыняцьця беларускага грамадзянства) з 5 да 7 гадоў; у закон мяркуецца ўнесьці норму, згодна якой беларускае грамадзянства можа быць прадстаўлена асобе, якая раней мела грамадзянства іншай дзяржавы, але адмовілася ад яе (раней грамадзянства РБ прадстаўлялася толькі асобам, ня меўшым грамадзянства іншай дзяржавы). Прапануецца зьменшыць тэрмін разгляду прашэньня аб адмове ад грамадзянства РБ з аднаго года да двух месяцаў. Па словах спадара Грыбанава, у закон мяркуецца ўнясеньне новага палажэньня, згодна якому сьпіс дакумантаў, неабходных для прыняцьця грамадзянства, будзе вызначацца самім прэзідэнтам.

Адказваючы на пытаньне, ці прадугледжваецца ва ўнесеных камісіяй зьменах увядзеньне падвойнага грамадзянства, спадар Грыбанаў адказаў: «Аб гэтым і ня можа ісьці размовы».

**СІМ**

## ШТРЭЙКБРЭХЕРАМ БЫЦЬ ВЫГАДНА

**22 машыністы і 12 работнікаў метро звольнены за ўдзел у забастоўцы Менскага метрапалітэну. Пра гэта паведамілі 28 жніўня ўдзельнікі прэс-канферэнцыі «Парушэньне права на працу ў Беларусі і сітуацыя вакол машыністаў менскага метро». Па іх словах, падчас забастоўкі вайскоўцы ўнутраных войск затрымалі 24 чалавекі. Затрыманых даставілі на базу ўнутраных войск у Менску. Там іх трымалі пад аховай байцоў «спецназа», абвінавачаньняў затрыманым не прад'яўлялі, даць адвакатаў ім адмовіліся.**

Па прыгавору суда на 10 сутак арыштаваны старшыня Свабоднага прафсаюзу Беларусі Г.Быкаў і старшыня прафкаму Прафсаюзу чыгуначнікаў на Менскім метрапалітэне М.Канах. Да 15 сутак арышту прыгавораны старшыня Свабоднага прафсаюзу работнікаў Менскага метрапалітэну У.Макаўчук. Каментуючы сваё нядаўняе затрыманьне, дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі С.Антончык заявіў, што «адміністрацыя прэзідэнта падрыхтавала неабходныя нарматыўныя акты, каб зьняць адказнасьць з праваахоўных органаў». «Лукашэнка ўсталёўвае рэжым абсалютнай улады», - лічыць С.Антончык.

Як паведаміў выконваючы абавязкі старшыні Свабодных прафсаюзаў Беларусі П.Майсіевіч, 28 жніўня ў Менску пачалося пікетаваньне будынкаў адміністрацыі прэзідэнта, Генеральнай пракуратуры краіны, Менскага гарвыканкаму і офіса адміністрацыі Менскага метрапалітэну.

Машыніст менскага метро і ўдзельнік забастоўкі Я.Куцькоў паведаміў, што бастуючых машыністаў метро замянілі каля шасьцюдзесяцьці машыністаў прыгарадных электрацягнікоў. На іх навучаньне, па словах Куцькова, адводзілася па 3 гадзіны. У выніку, некалькі разоў узьнікалі аварыйныя сітуацыі. За працу на працягу 4-х дзён забастоўкі штрэйкбрэхеры атрымалі па 1,5 мільёна рублёў, іх узнагародзілі граматамі і памятнымі гадзіньнікамі.

**«Э.-Х.»**

## СЛОВА ЗА ТАБОЙ, ВЫБАРШЧЫК!

**Тэма выбараў паступова выходзіць на першы план. Кіруючыя ворганамі партый, рухаў, аб'яднаньняў, грамадзкіх арганізацый, іх прадстаўнікі на месцах зноў і зноў аналізуюць вынікі папярэдніх спроб займець дэпутацкія паўнамоцтвы.**

Як вядома, у Гарадзенскі абласны Савет цяпер неабходна абраць 90 народных вылучэнцаў. Мандаты атрымалі 43 чалавекі. Сярод іх - 22 так званых беспартыйных. 16 прадстаўляюць Аграрную партыю. Партыя камуністаў здолела правесьці чатырох, Беларускі Народны Фронт - аднаго дэпутата.

Такім чынам, увосень барацьба пойдзе за астатнія 47 мандатаў. У сваёй бальшыні дэпутатамі стануць прадстаўнікі Горадні, а таксама амаль усіх гарадоў вобласьці. Бо менавіта тут выбары не адбыліся з прычыны нізкай яўкі выбаршчыкаў.

Хто ж будзе прэтэндаваць на пакуль што вакантныя дэпутацкія месцы? Прозьвішчы гэтых асобаў трэба шукаць у сьпісе кандыдатаў, надрукаваных у свой час «Гродзенскай праўдай». З невялікай папраўкай на тых, хто адважыцца выставіць свае кандыдатуры ўпершыню.

Пэўную інфармацыю даюць вынікі якраз тых выбараў, што не адбыліся. Аднак, кандыдаты набралі нейкую колькасьць галасоў. Прычым часьцяком працэнт актыўнасьці выбаршчыкаў быў высокім. Напрыклад, у Болдзінскай выбарчай акрузе - 34,8 працэнта, Універсітэцкай - 34,7, Горкаўскай - 31,8, Саламаўскай - 34,1 працэнта. Найбольш пасіўнымі праявілі сябе выбаршчыкі Купальскай выбарчай акругі - 15,6 працэнта, Пабеда294носнай і Томінскай - па 18,4.

Калі арыентавацца на найбольшую колькасьць галасоў, набраных тым ці іншым кандыдатам, а гэтыя людзі, думаю, ведаюць свае дасягненьні, - дык можна даволі ўпэўнена вызначць прозьвішчы магчымых будучых дэпутатаў абласнога Савету.

Ня буду ўказваць назвы выбарчых акругаў для эканоміі газетнай плошчы, дый гэта ня так істотна. Можна лічыць, што дэпутацкі мандат зноў пакіне за сабой цяперашні дэпутат аблсавету В.А.Ражко. Яго адрыў ад бліжэйшага канкурэнта складае амаль паўтары тысячы галасоў. Адрыў у 200-300 галасоў дасягнулі ад бліжэйшых канкурэнтаў Ф.П.Паўловіч, У.К.Вайтушка, Б.М.Казялкоў, М.Я.Прысада, С.І.Васілеўскі, Т.М.Навасельцава, У.В.Сазонаў, Л.У.Школьнік, А.С.Сямёнаў, І.А.Пракопчык. З пералічаных асобаў восем балатаваліся як беспартыйныя, два - члены ПКБ.

Значная група кандыдатаў у дэпутаты абласнога Савету захоўвае неблагія шанцы. Ім, вядома, трэба добра-такі папрацаваць у сваіх выбарчых акругах. Вле маральныя затраты могуць акупіцца здабыткам мандата. Не сумняваюся, што менавіта так пастуяць У.Р.Галезьнік, С.А.Жураўскі, П.П.Макараў, А.А.Высоцкі, В.Л.Шпак, І.Г.Ахметаў, А.М.Мацеша, Т.У.Ляцко, А.М.Гаркоў, С.І.Сакалоўскі, П.Ц.Рыбакоў, Л.В.Евец, А.І.Шаўчэнка, В.І.Варанец, Р.І.Можджар.

Сярод пералічаных верагодных вылучэнцаў кандыдатаў у дэпутаты чацьвёра прадстаўляюць Партыю камуністаў Беларусі, двое - Беларускі Народны Фронт, адна кандыдатка прадстаўляе жаночую партыю «Надзея». Астатнія не пазначылі сваю партыйную прыналежнасьць.

Не здабылі значных посьпехаў падчас чэрвеньскіх выбараў прадстаўнікі Партыі народнай згоды, Грамады, партыі Патрыятычнага руху. Амаль на ўсіх акругах камуністы апярэджваюць кандыдатаў ад БНФ. Але гэты разрыў уцэлым нязначны.

Калі гэты прагноз у нейкай меры спраўдзіцца, то абласны Савет новага скліканьня будзе мець уплывовыя групы акрамя дэпутатаў ад Аграрнай партыі - камуністаў 10-13 чалавек, БНФ - 5-6 асобаў. Магчыма, будуць абраны 2-3 дэпутаты ад іншых партый і рухаў.

Верагодна, што аграрнікі і камуністы створаць адзіную дэпутацкую групу на пастаяннай, альбо на часовай платформе. Да іх далучыцца частка так званых беспартыйных - тых, хто зараз ня хоча афішаваць свае сімпатыі, але абавязкова праявіць іх пасьля абраньня. Калі не ўступленьнем у азначаныя дэпутацкія групы, то актыўнай падтрымкай пры галасаваньні.

Сярод абранай часткі аблсавету няма ні рабочых, ні сялян. Не было іх паміж кандыдатаў тых выбарчых акругаў, дзе выбары не адбыліся. Няма ветэранаў. Надзвычай мала моладзі. Вельмі бракуе юрыстаў, эканамістаў-рыначнікаў. Лічаныя адзінкі ўрачоў і настаўнікаў.

Аднак, яшчэ можна разумна папоўніць склад абласнога Савету. Але гэта цалкам залежыць ад выбаршчыкаў.

**В.ЗАДАЛЯ,**
**дэпутат абласнога Савету.**

 

# СУМЕЖЖА

## АЙЦЕЦ ВІКТАР: «РАСКОЛ ХРЫСЬЦІЯНСТВА - НАШ НЕПРАХОДЗЯЧЫ БОЛЬ»

**Нядаўна з партугальскага мястэчка Фаціма, вядомага ва ўсім хрысьціянскім сьвеце, вярнуўся пасьля паломніцтва настаяцель Гарадзенскай грэка-каталіцкай суполкі а.Віктар Данілаў. Наш карэспандэнт сустрэўся з ім, папрасіўшы распавесьці пра ўражаньні ад вандроўкі і пра жыцьцё гарадзенскіх вуніятаў.**

**- Айцец Віктар, якім быў склад паломнікаў?**

- Партугалію наведала група каталіцкага духавенства агульнай колькасьцю каля 50 чалавек. Сярод іх - сьвятары лацінскага абраду Летувы, Украіны, Расеі, Казахстана. Беларусь прадстаўлялі кардынал, мітрапаліт Менскі і Магілёўскі Казімір Сьвёнтэк, грэка-каталіцкі апостальскі візітатар а.Сяргей Гаек і я. У Фаціме мы знаходзіліся тыдзень.

**- Многія людзі ў нас ня ведаюць, чым знамянальныя фацімскія падзеі.**

- Фаціма - невялічкі гарадок, калісьці вёска, у якой у 1916-1917 гг. жылі дзеці Люцыя, Францыск, Гіацынта. Яны былі непісьменнымі, але былі вельмі рэлігійнымі, дзякуючы бацькоўскаму выхаваньню. У 1916 годзе ім зьявіўся тройчы Анёл у выглядзе юнака і паведаміў, што Ісус і Марыя маюць пра іх роздум.

13 траўня 1917 года дзецям было зьяўленьне Дзевы Марыі. Божая Маці мела гутарку з Люцыяй. Марыя заклікала людзей да пакаяньня, малітвы за мір у сьвеце. Пасьля гэтага яна зьяўлялася яшчэ некалькі разоў, прадказала хуткую сьмерць Францыська і Гіацынта, паказала дзецям пекла. Дзева Марыя прадказала заканчэньне Першай сусьветнай вайны і набліжэньне Другой. Марыя зазначыла, што калі людзі ня зьменяцца да лепшага, то сьвету зноў будуць пагражаць войны. Шмат слоў было сказана пра Расею. Калі Расея (відавочна, на ўвазе меліся землі ўсяго СССР - Х.К.) не павернецца да Бога, то яна распаўсюдзіць свае адхіленьні на ўвесь сьвет, сеючы войны і ганеньні супраць царквы. Аднак на некаторы час Расея навернецца і будзе дараваны мір.

На месцы свайго зьяўленьня Марыя загадала пабудаваць капліцу і 13 кастрычніка 1917 года абяцала цуд, які павінен быў пацьвердзіць людзям Божую волю. Гэтую праяву назірала каля 60 тысячаў чалавек. Нарэшце, па просьбе Люцыі Марыя вылячыла некалькі хворых. Дарэчы, сястра Люцыя да гэтага часу жыве ў кармеліцкім кляштары (у сакавіку 1988 ёй споўнілася 88 год). Казімір Сьвёнтэк меў сустрэчу з сястрой Люцыяй і пазьней падзяліўся з намі той гутаркай. У цэлым вандроўка была вельмі насычанай. У Лісабоне мы наведалі кляштар еранімітаў, пабачылі помнік Хрысту Цару, вышынёй у 133 метры, пабывалі ў старажытных храмах XII ст. - у гарадках Батала, Алькабака, Назар. Пра свае перажываньні я падрабязна апавядаў нашым вернікам пасьля вяртаньня.

**- Грэка-каталіцкая суполка ў Горадні існуе амаль тры гады. Што зьмянілася ў яе жыцьці за гэты час?**

- Мяне ўсьцешвае рост хрысьціянскай самасьвядомасьці нашых вернікаў, усьведамленьне імі глыбокай маральнай выхаваўчай функцыі хрысьціянства. За акрэсьлены перыяд мы выйшлі на якасна новы ўзровень. Сябры нашай суполкі - пераважна людзі з вышэйшай адукацыяй, сярод іх шмат навукоўцаў. І гэта заканамерна. Бо, як сказаў адзін мудры чалавек: «Навука - гэта імкненьне да стварэньня, рэлігія - імкненьне да Тварца.» Немагчыма, каб яны супярэчылі ці супрацьстаялі адна другой.

Прыгнятае, што дагэтуль мы ня маем у вобласьці аніводнага храма і нават капліцы, без якіх немагчымы хуткі колькасны рост грэка-каталікоў. Рэлігійная свабода толькі дэкляравана. На самой справе роўнасьці паміж канфесіямі няма, бо адсутнічаюць гарантыі дзейнасьці. Мы змушаны ладзіць свае набажэнствы ў непрыстасаваных памяшканьнях. І ўсё ж у планах суполкі - стварэньне царкоўна-асьветніцкага цэнтру з бібліятэкай, катэхетычным памяшканьнем.

**- Існуе думка, што вуніяты - гэта ледзь не ультранацыяналісты.**

- Такія меркаваньні абсурдныя. Мы перш за ўсё хрысьціяне, паяднаныя ідэяй канфесійнага замірэньня і адзінства Царквы. У складзе нашае суполкі стала знаходзяцца беларусы, украінцы, палякі, расейцы, татары. Натуральна, што сярод іх многа тых, хто ангажаваны ідэяй нацыянальнага Адраджэньня. Яны разумеюць, што адным з гарантаў стабільнай палітычнай будучыні Беларусі зьяўляецца вуніяцтва. Таму што вуніяцтва заклікае паразумецца каталікоў з праваслаўнымі, усіх людзей, не зважаючы на іх нацыянальную прыналежнасьць і веравызнаньне.

**- З якім настроем Вы сустракаеце надыходзячую юбілейную ўгодкі Берасьцейскай вуніі 1596 года?**

- Раскол хрысьціянства, сваркі паміж канфесіямі - наш непраходзячы боль. Але наша вера ў адраджэньне вуніі мацуецца. Мы будзем адзначаць юбілей канферэнцыямі, сьвяточнымі набажэнствамі. Апроч гэтага ў нашых планах пілігрымкі па мясьцінах, цесна зьнітаваных з вуніяцкай гісторыяй. Верым, што Бог будзе нам спрыяць.

**Распытваў Хельмут КАМЕНСКІ.**



*Юныя мастакі*

**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА.**

## ЗОНА ІСНУЕ НА ПАПЕРЫ

**Як вядома, шэраг населеных пунктаў, якія знаходзяцца па суседству з Летувой, уключаны ў памежную зону. Але ж яна існуе пакуль толькі ўмоўна. І, хаця жадаючы туды трапіць павінны запасьціся неабходнымі для праезду гэтага паперамі, іх наяўнасьць пры ўезьдзе на тэрыторыю зоны не правяраюць.**

Праўда, касіры на чыгуначных і аўтавакзалах не прадаюць білеты тым, хто ня мае дазволу на ўезд у памежную зону. Але кемлівыя людзі ўсё ж знайшлі выйсьце і з гэтага становішча. Яны, едучы на аўтобусах, бяруць у касе білет да населеных пунктаў, што мяжуюць з зонай, а потым набываюць у вадзіцеля яшчэ адзін да пэўнага пункта прызначэньня.

Яшчэ прасьцей трапіць на тэрыторыю памежнай зоны ўладальнікам уласнага аўтатранспарту. Садзіся - і едзь.

**Д.А.**

## ВЫВОЗЯЦЬ ЗЕРНЕ Ў РАСЕЮ

**Як паведаміў намесьнік старшыні Магілёўскага аблвыканкаму У.Адашкевіч, у вобласьці рэзка ўзрасла колькасьць прадаваемага калгасамі зерня ў Расею.**

Па яго словах, паколькі вобласьць яшчэ не разьлічылася з дзяржзаказам па зерню, міліцыі загадана затрымліваць транспарт з такім грузам і вяртаць назад. Аднак, па ацэнках сьпецыялістаў, транспартны паток у Расею не зьмяншаецца, бо расейцы плоцяць за хлеб адразу і поўнасьцю, у той час, як беларуская дзяржава мае вялікую запазычанасьць перад калгасамі.

**СІМ**

## ШЛЯХУ З ВАРАГАЎ У ГРЭКІ БЫЦЬ?

**Ня так даўно кіраўніцтва Калінінградзкай вышэйшай школы кіраваньня (дарэчы, даволі вядомай у бізнэсовых і палітычных колах Расеі) даслала запрашэньне членам беларускага Ўраду наведаць Калінінградзкую вобласьць з мэтаю далейшага разьвіцьця навуковага і эканамічнага супрацоўніцтва паміж Калінінградзкім і Берасьцейскім рэгіёнамі.**

Запрашэньне было з удзячнасьцю прынятае. Дарэчы, пра навязденьне цесных кантактаў з гэтымі самымі Прыбалтыйскімі рэгіёнамі апазіцыя ды БНФ калі яшчэ казалі...

**Л.М.**

## АДРАДЖАЕЦЦА МАНАСТЫР

**Пад час казаньня ў дзень памяці сьвятога вялікамучаніка і гайбіта Панцелеймона ў Сьвята-Троіцкай царкве Зэльвы мітрапаліт Менскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх Усяе Беларусі паведаміў, што зараз пачынае адраджацца Панцелеймонаўскі манастыр, які месьціцца на сьвятых гарах Афона, што ў Грэцыі. Ён быў заснаваны ў пачатку XI стагоддзя на сьвятым Афоне выхадцамі з Расеі.**

Зараз туды ад'ехалі 50 манахаў з Расеі і з Беларусі. Былы цэнтр праваслаўнага манастыра зноў плануе заняць адно з вядучых месцаў у выдавецкай дзейнасьці. Дарэчы, у былыя часы штогод там выходзіла каля трох тысячаў выданьняў.

**Пятро ЖЭБРАК.**

## БОЧКА З ПОРАХАМ

**Рэха югаслаўскай вайны шторaз часьцей разносіцца па цэлым сьвеце, а асабліва па Эўропе, дзе нарастае эмацыянальнае заангажаваньне паасобных народаў у гэты канфлікт. Разам з агрэсіяй харватаў на заселеную сербамі Крайну, вайна набыла характар рэлігійнага каталіцка-праваслаўнага канфлікту. Хлусьлівыя каментары ў польскіх сродках масавай інфармацыі паказваюць, што Польшча выразна акрэсьліла свае пазіцыі на баку каталіцкай Харватыі.**

Калі сербы выгналі тысячу мусульман ці харватаў, такі факт быў названы варшаўскімі каментатарамі найвышэйшым злачынствам супраць чалавецтва. Сербы, дарэчы, ужо пару гадоў прадстаўляюцца як сімвал зла, проста пасланьнікі пекла. Калі аднак харваты выгналі дзьвесьце тысяч сербаў, тыя ж самыя людзі, каментуючы падзеі ў былой Югаславіі, з нескрываным задавальненьнем захапляліся бліскучай перамогай аднаверцаў. Не зьвярталі яны нават увагі на тое, што харвацкія самалёты атакавалі калоны сербскіх бежанцаў з Крайны, ні на гвалты і катаваньні жанчын і дзяцей, якія не пасьпелі ўцячы пред агрэсарамі.

Але гэта менавіта і ёсьць логіка мовы, характэрная для людзей эмацыянальна заангажаваных у канфлікт. Няма прытым ніякай этыкі журналісцкай працы, ні звычайнай чалавечай сумленнасьці.

Тым часам югаслаўская вайна пачынае шторaз больш пагражаць стабільнасьці Эўропы. Вяртаюцца як бы і старыя падзелы з пачатку нашага стагоддзя. Аказалася цяпер, што немцы і амерыканцы шмат гадоў рыхтавалі харвацкую армію да вайны з сербамі - саюзьнікамі Расеі. Англічане і французы ці мелі прычын захапляцца перамогай харватаў у Крайне. Пашырэньне немецкіх уплываў на Балканах не супадае з іх інтарэсамі. Расейскі парламант, адкідаючы аднабакова аанаўскія пастановы адносна санкцый супраць Сербіі, афіцыйна заявіў сьвету, што Расея ня будзе далей спакойна прыглядацца як слабее найвярнейшы саюзьнік. За такім ходам палітыкі выказваецца большасьць тамашняга грамадзтва.

Нягледзячы на сучасныя пакты і дагаворы, югаслаўскі канфлікт вярнуў гістарычную памяць для большасьці народаў нашага кантынента. Сімпатыі немцаў і італьянцаў накіраваліся ў бок харватаў, разам з якімі ваявалі яны падчас другой сусьветнай вайны супраць сербаў. З каментарыяў англійскай і французкай прэсы выразна відаць, што не захапляе іх перамога харватаў над сербамі ў Крайны. Чым даўжэй трывае вайна ў былой Югаславіі, тым больш выразна вяртаюцца старыя палітычныя падзелы ў Эўропе. З рэлігійных прычын палякі паставілі свае сімпатыі на баку харватаў, грэкі - на баку сербаў. Але гэта толькі азначае, што старыя рэлігійныя падзелы вельмі трывалыя і выклікаюць усё яшчэ вялікія эмоцыі. Здавалася б варожасьць паміж праваслаўнымі і каталікамі ёсьць нечым ірацыянальным - усё ж і адны, і другія хрысьціяне. Кожнае хрысьціянскае веравызнаньне наказвае любіць другога чалавека, як сябе самога, забараняе нянавісьць, загадвае веруючым выбачаць крыўды нават найбольшым ворагам. Гісторыя Эўропы паказвае, што жывем на язычніцкім кантыненьце. Справа Супрасьльскага манастыра ёсьць доказам, як браты-хрысьціяне шануюць сімвалы іншых хрысьціян. Можна сабе ўявіць, як гэтая пашана выглядала ў Крайне ці Заходняй Славоніі, дзе ўваравліся быццам бы хрышчаныя харваты. Ніводная царква не была патрактаваная як дом Божы, а толькі як месца дэманстрацыі нянавісьці да праваслаўных. Нішто не паказвае, што нейкая міжнацыянальная канферэнцыя паспрыяе заканчэньню гэтай балканскай вайны. Зашмат там нянавісьці, зашмат крыві пралілося і ніхто з тамашніх хрысьціян не зьбіраецца нікому выбачаць свае крыўды. Патрачаны быў час, калі існавалі адпаведныя ўмовы для дыскусіі спакойнага асуджэньня ўсялякіх крыўдаў, нанесеных падчас II сусьветнай вайны. Таму апрача ўжо існуючай праваслаўна-мусульманскай вайны, пачалася на тэрыторыі былой Югаславіі каталіцка-праваслаўная. Гэта апошняя падзея парушыла раптам палітыкаў і грамадзтва цэлай Эўропы. Балканы ўжо раз былі дэтанатарам эўрапейскай бочкі з порахам. На шчасьце для Эўропы цяпер гэтая бочка абмежаваная толькі да Югаславіі. Напэўна за Кнін, Сараева ці Баня-Луку не зьбіраюцца змагацца ні расейцы з немцамі, ні аўстрыйцы з румынамі, але шмат палітыкаў, генералаў, банкіраў і мафіёзі, зацікаўленых у тым, каб вайна ў Югаславіі трывала як найдаўжэй. За іх інтарэсы доўга яшчэ плаціць будуць югаслаўскія народы.

**Яўген МІРАНОВІЧ.**

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

**Набірае абароты перадвыбарчая прэзідэнцкая кампанія.**

Прэзідэнт Лех Валэнса заявіў, што з прэм'ер-міністрам Юзафам Алексым будзе мець зносіны толькі ў пісьмовай форме альбо пры сьведках, бо апошні звычайна скажае ці перакручвае словы прэзідэнта.

* * *

**Надрукаваны ліст польскіх біскупаў да выбаршчыкаў. Кіраўнікі касьцёлу заклікаюць насельніцтва прыняць актыўны ўдзел у выбарах прэзідэнта, але ні ў якім разе не галасаваць за посткамуністычных кандыдатаў, якія ў часы камуністычнага рэжыму займалі кіраўнічыя пасады ў партыйных і дзяржаўных структурах.**

На думку сьвятароў, такія людзі ня могуць праводзіць дэмакратычныя пераўтварэньні й кіраваць дзяржавай.

Дарэчы, лідар левых дэмакратаў (колішніх камуністаў) Аляксандр Квасьнеўскі лічыць, што гэта яго не датычыць.

**Ю.Г.**



ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

**Сяргей ЁРШ**

# БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ РЭЗЫСТАНС У ГАДЫ ДРУГОЙ СУСЬВЕТНАЙ ВАЙНЫ

## 1.УСТУП

Ужо паўстагоддзя прайшло пасьля заканчэньня другой сусьветнай вайны, але да гэтага часу ня сказана яшчэ ўся праўда пра антынямецкі супраціў на Беларусі. Дзесяткі пасьляваенных гадоў камуністычныя гісторыкі стваралі міф пра выключную ролю бальшавіцкай партыі ў кіраўніцтве антынямецкім падпольлем і партызанскім рухам, не дапускаючы аніякай рэвізіі ў гэтым пытаньні. Толькі беларускія і польскія эміграцыйныя гісторыкі ды непасрэдныя ўдзельнікі ваенных падзей, якія апынуліся на Захадзе, асьмельваліся выступаць са сваёй, не падобнай на афіцыйную, трактоўкай таго зацятага змаганьня, што ішло на абшарах нашай Бацькаўшчыны. Але яны адразу ж шальмаваліся бальшавіцкаю прапагандаю, як нямецкія калабаранты, нацыянал-фашысты, забойцы і... фантазёры. Так, калі не заставалася аргумантаў супраць іх канцэпцыяў, у ход ішло абсурднае абвінавачаньне ў фантазіраваньні...

На пачатку 1990-х г.г. на Беларусі пачалі многа пісаць пра польскае нацыянальнае падпольле й партызанку 1941-44 гадоў. Пасьля гэтага прыйшла чарга ўкраінскага нацыяналістычнага руху, які ў ваенныя часы базіраваўся на беларускім Палесьсі. Але вось пра беларускі нелегальны рух маўчалі. Юры Туронак прысьвяціў Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП) у сваёй кнізе «Беларусь пад нямецкай акупацыяй» толькі адну балонку тэксту, ды й яшчэ падтрымоўвае версію аб сувязях партыі з абвэрам.

Найбольш цікавую й кампетэнтную характарыстыку беларускаму нацыянальнаму падпольлю дала Галіна Кнацько («Листопадовцы».Народная газета, 25 жніўня 1994 г.). Яна пісала: «Беларускі нацыянальны рух у цэлым таксама ня быў адзіным. Яшчэ ў 1940 годзе ў ім ствараліся тры плыні. Адна ў барацьбе за незалежнасьць рабіла стаўку на нацыянал-сацыялістычную партыю Нямеччыны; другая, спадзеючыся лягальна атрымаць уладу, ішла на саюз з грамадзянскімі акупацыйнымі ўладамі; трэцяя аддавала перавагу нелегальнай дзейснасьці. Беларускае нацыянальнае падпольле знаходзілася ў найбольш уразлівым стане. Нярэдка ягоныя лідары легалізаваліся, знаходзячыся на службе акупантаў, выношвалі ідэі барацьбы за назалежнасьць.

Пра ўсе гэтыя рухі і напрамкі было вядома нямецкім сьпецслужбам, якія сістэматычна наносілі ўдары або сваімі рукамі, або рукамі «супраціўнікаў, спрытна іграючы на слабасьцях і супярэчнасьцях».

Беларускіх гісторыкаў на эміграцыі было вельмі мала, а тыя, што працавалі, знаходзіліся ў розных палітычных лагерах. З гэтай прычыны яны ў сваіх дасьледаваньнях адлюстроўвалі, перш за ўсё, інтарэсы той палітычнай групоўкі, да якой належалі. Таму было шмат суб'ектыўнасьці, замоўчаліся адныя эпізоды й празьмерна ўсхваляліся іншыя... Сапраўды, нелегальны рух быў неаднародным і гэтая неаднароднасьць (упрост да варожасьці) была перанесеная ў эміграцыю. Яскрава характэрызуе гэта дачыненьні Рады БНР і хмараўскай Грамады. Рада БНР усяляк папулярызавала Беларускую Незалежніцкую Партыю, але ні словам не ўспаміналася пра нелегальную Грамаду і Беларускую Народную Партызанку. Хмараўцы ж, наадварот, усяляк расхвальвалі сваё падпольле й партызанку, а БНП абвінавачвалі ў сувязях з абвэрам (атрымоўвалася, што толькі Грамада была паўнацэнный нелегальнай арганізацыяй). У выніку, за 50 гадоў на эміграцыі так і не было зроблена дасьледаваньня, у якім прысутнічалі б усе дзейнікі нацыянальнага рэзыстансу, а не асобныя партыі й групы. Дарэчы, гэткая ж сітуацыя была й ва ўкраінскай эміграцыі. У выдадзеных у Канадзе двух тамах «Летапісу УПА» замоўчваецца дзейнасьць ОУН палк. Мельніка й Палескай Сечы УПА ат.М.Бараўца (Тарас Бульба). З беларускіх эміграцыйных гісторыкаў, у справе вывучэньня нацыянальнага рэзыстансу, найбольш зрабілі Юрка Стасевіч (Грамада) І Вацлаў Пануцэвіч (Бэнээравец). Першы друкаваў свае работы ў газеце «Беларускі голас» (Таронта), а другі - у часопісе «Беларуская Царква» (Чыкага). Паміж імі ішла палеміка, да якой падключаліся й камуністы. Менскі «Голас Радзімы» й канадзкія пракамуністычныя (кадэбісцкія) газеты асабліва зацята наскоквалі ў сваіх «разоблачениях» на хмараўцаў, бо тыя пад час нямецкай акупацыі, сапраўды, зрабілі ці не найбольш для незалежнасьці Беларусі, чымсьці іншыя арганізацыі. Адна толькі Беларуская Народная Партызанка не давала спакою і камуністычным ідэолагам і кадэбісцкім кіраўнікам.

Сёньня мы паспрабуем стварыць агульную карціну дзейнасьці нацыянальных падпольных арганізацыяў і партызанскіх аддзелаў у змаганьні за незалежную Беларускую Народную Рэспубліку.

## 2. КСЁНДЗ ВІНЦЭНТ ГАДЛЕЎСКІ - КІРАЎНІК І ІДЭОЛАГ БЕЛАРУСКАГА ВЫЗВОЛЬНАГА РУХУ

У міжваенным часе найбольш пасьлядоўным правадніком незалежніцкіх ідэй у беларускім вызвольным руху быў кс. В.Гадлеўскі. Ён ня толькі гуртаваў вакол сябе беларускіх нацыяналістых-незалежнікаў, але й распрацоўваў ідэалогію руху. Другою асобаю гэткага маштабу й незалежніцкай ідэалогіі быў былы кіраўнік Беларускай партыі сацыялістых-рэвалюцыянераў Тамаш Грыб, але ён памёр у 1938 г. ў чэшскай Празе.

У той час, калі беларускія дзеячы «хісталіся» ад паланафільства да камунізму й нават фашызму, кс. Гадлеўскі праводзіў строга незалежніцкую палітыку. Калі ў 1936 г. Беларуская Хрысьціянская Дэмакратыя на чале з кс. Адамам Станкевічам пайшла на паваду камуністых, далучыўшыся да акцыі антыфашыстоўскага народнага фронту, перайменаваўшы БХД на Беларускае Народнае Аб'яднаньне, кс. Вінцэнт Гадлеўскі арганізоўвае сваю незалежніцкую групу пад назовам «Беларускі Фронт» і выдае газету пад гэткаю ж назваю. Сябры ягонае групы (Мікола Шкялёнак, Мікола Шчорс і інш.) у гады другой сусьветнай вайны прынялі актыўны ўдзел у арганізацыі Беларускага Антыгітлераўскага Рэзыстансу.

Пачатак другой сусьветнай вайны актывізаваў дзейнасьць групы кс. Гадлеўскага. Правадыр беларускіх незалежнікаў разумеў, што гісторыя дае яшчэ адзін шанц для адбудовы незалежнае Беларускае дзяржаўнасьці й яго трэба скарыстаць. Напрыканцы 1939 г. ў Вільні была заснаваная кс. Гадлеўскім Беларуская Незалежніцкая Партыя, у кіраўніцтва якой уваходзілі таксама і Станіслаў Грынкевіч (старэйшы), Чэслаў Ханяўскі, М.Шкялёнак і інш. У 1940 г. кіраўніцтва партыі перабіраецца ў акупаваную немцамі Польшчу, дзе распачынае актыўную арганізацыйную працу. Ксёндз Гадлеўскі піша праграму БНП, як нелегальнай арганізацыі, якая змагалася за незалежную Беларускую Дзяржаву.

Адначасна кс. В.Гадлеўскі дзейнічае афіцыйна, як кіраўнік нацыяналістычнай арганізацыі «Беларускі Народны Фронт» (БНФ), праграму якой выдае ў Варшаве й распаўсюджвае сярод беларусаў Нямеччыны, Чэхаславаччыны, Генеральнай губерні й Францыі. БНФ зьяўляецца легальным прыкрыцьцём падпольных структураў БНП. У гэты час групы партыі дзейнічалі ў Польшчы (М.Шчорс, кс.Пётр Татарыновіч, Вітаўт Тумаш, Ч.Ханяўка, Мікола Ждановіч, Барыс Стральчак, Пётр Ластаўка, Баляслаў Манкевіч і інш)., у Нямеччыне (М. Шкялёнак, Мікола Абрамчык, Анатоль Шкутка, Станіслаў Грынкевіч (малодшы) і інш.), у Францыі (Лявон Рыдлеўскі й Абрамчык да выезду ў Берлін), у Рыме (Часлаў Сіповіч), у Празе (Васіль Захарка). Беларускія вайскоўцы з польскага войска, вызваленыя немцамі з лагераў для ваеннапалонных, далучаюцца да канспіратыўнай БНП (Усевалад Родзька, Міхаіл Вітушка, Рыгор Зыбайла й інш.).

Напярэдадні нямецка-савецкай вайны, 19 чэрвеня 1941 г. ў Берліне быў утвораны Беларускі Нацыянальны цэнтр на чале з М.Шчорсам, як праваобраз будучага Беларускага Ураду. Яшчэ заставаліся спадзяваньні, што немцы будуць спрыяць адраджэньню беларускае дзяржаўнасьці. Але гэтыя ілюзіі зьніклі хутка пасьля пачатку вайны.

## 3. АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКАГА РЭЗЫСТАНСУ

Падпольная барацьба заўсёды мае шмат заблытаных і цяжка зразумелых балонак. Невялікая колькасьць захаваўшыхся архіўных дакумантаў і ўспаміны нямногіх жывых сьведак тых падзеяў не здымаюць усе пытаньні. У большай ступені гэта датычыць беларускага нацыянальнага рэзыстансу.

Глыбокая канспірацыя прыводзіла да такіх сітуацый, калі некаторыя сябры падпольля ня ведалі, у якой яны былі арганізацыі. Напрыклад, Іван Касяк ужо на эміграцыі пісаў у адным выпадку, што ён быў сябрам БНП, у другім - сябрам Партыі Беларускіх Нацыяналістых (ПБН). Былі выпадкі, калі некаторыя дзеячы мелі падвойнае сяброўства ў падпольных арганізацыях. Так, кіраўнік нелегальнай Грамады Юльян Саковіч быў сябрам ЦК БНП, а старшыня ЦК ПБН Ян Станкевіч, па некаторых зьвестках, быў і актыўным сябрам БНП. Вацлаў Іваноўскі, адзін з кіраўнікоў БПН, па зьвестках І.Касяка, у 1942 г. увайшоў у ПБН, што выклікала пратэст Саковіча і Касяка («Заўвагі да артыкулу аб Іваноўскім», Беларуская думка (ЗША), N 29, 1984 г.)

### ПАРТЫЯ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТЫХ

Дзейнасьць гэтай падпольнай арганізацыі дасканала вывучыў Ю.Туронак. У сваіх дасьледаваньнях (Беларуская праблема ў палітыцы лонданскага лагера; Беларусь пад нямецкай акупацыяй; В.Іваноўскі і адраджэньне Беларусі) ён адстойвае думку, што ПБН была адзінай праўдзівай канспіратыўнай арганізацыяй.

ПБН была ідэяю Я.Станкевіча і В.Іваноўскага, якія арыентаваліся на заходніх саюзьнікаў і іх вырашальную ролю ў арганізацыі пасьляваеннага ладу ў Эўропе. Арганізацыяй структураў партыі Ян Станкевіч займаўся ў 1940-41 г.г. у акупаванай немцамі Варшаве «з апазіцыйна настроены да палітыкі Шчорса і Гадлеўскага сяброў варшаўскага Беларускага камітэта». У склад ПБН увайшлі й разьведчыкі польскага падпольля (Дабжыньска, Кастравіцкі, Буткевіч).

Станкевіч спрабаваў выйсьці на заходніх саюзьнікаў праз польскае падпольле, але тое адмаўлялася весьці перамовы з нешматлікай ПБН. Толькі ў лістападзе 1941 г., калі Іваноўскі стаў бурмістрам Менску, палякі ўбачылі якія магчымасьці для падпольнай дзейнасьці дае супрацоўніцтва з групай Станкевіча. Пачаліся перамовы, якія, аднак, ні да якіх вынікаў не прывodзілі.

Паводле ліпеньскага акоўскага рапарту 1942 г. ПБН налічвала 500 чалавек. ЦК партыі складаўся з 12 чалавек (8 заходнікаў, 4 усходнікаў (нацдэмаў), і яго ўзначальваў Станкевіч. Партыя будавалася з «пяцюрак», якія былі ў большасьці раёнаў генеральнага камісарыяту.

### ГРАМАДА

Восеньню 1941 г. з ініцыятывы каманданта беларускай паліцыі Менскай акругі Юльяна Саковіча паўстала нелегальная Грамада. Гэта была падпольная арганізацыя былых сяброў беларускай сялянска-работніцкай грамады. Сам Саковіч, аграном па адукацыі, у маладосьці сімпатызаваў камунізму, шмат гадоў праседзеў у польскіх турмах за палітычную дзейнасьць. Перад вайной быў арыштаваны НКУС, але выжыў і, разьвітаўшыся з камуністычнымі ілюзіямі, пачаў актыўна дзеіць на пачатку нямецкай акупацыі.

Выкарыстаўшы нібы інструктаж працаўнікоў беларускай Народнай Самапомачы, Саковіч склікаў у Менску былых грамадоўцаў для ўзнаўленьня арганізацыі. На нарадзе было 9 чалавек (Саковіч, Сяргей Хмара (Сіняк), Васіль Лукашык, Іван Гелда, Васіль Пінскі (Вір), Юрка Стасевіч і іншыя). Было пастаноўлена дзейнасьць арганізацыі строга законсьпіраваць. Грамада будавалася з «троек» і непасьведчаных ува ўсё прпыхільнікаў. Спрэчка ўзьнікла толькі ў пытаньні супрацоўніцтва з нямецкаю грамадзянскаю адміністрацыяю. Было вырашана да наступнай канферэнцыі (яна адбылася напрыканцы 1942 г.) пакінуць гэтую справу адкрытай на адказнасьць паасобных сяброў.

Грамада мела сваю сувязную сетку па ўсёй Заходняй Беларусі, пачынаючы Менскам, Пінскам, Берасьцем, Беластокам і Вільняю, аднак не налічвала больш 50 дзейных сяброў (па-за партызанскімі аддзеламі). Выканаўчая «Пятка» Грамады складалася з Саковіча, Хмары, атамана Якуба Харэўскага, Віра і атамана Язэпа Таўпекі.

Неабходна адзначыць, што савецкія сьпецслужбы нейкім чынам выйшлі на Грамаду, але яны памылкова вызначылі кіраўніком арганізацыі. А.Салаўёў піша пра «руководителя «Белорусской Громады» Фабиана Акинчица» і «руководителя «белорусской народной громады» Владислава Козловского» (Они действовали под разными псевдонимами. Мн.,1994). Але ні Акінчыц, ні Казлоўскі ня мелі з Грамадою аніякіх кантактаў, бо да іх, як нацыянал-сацыялістых, беларуская канспірацыя ня мела даверу.

### БЕЛАРУСКАЯ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЯ ПАРТЫЯ

З пачаткам нямецка-савецкай вайны на Беларусь прыбылі з Варшавы сябры БНП для працы ў грамадзянскай адміністрацыі. Да іх далучыліся жаўнеры Першага Штурмовага Зьвязу - аддзела дэсантнікаў, арганізаванага ў Польшчы з ініцыятывы кс.Гадлеўскага, скінутага ў БССР перад пачаткам вайны. На Беларусі наладжвалася канспіратыўная сетка БНП. У шэрагі партыі ўліліся былыя вязьні савецкіх турмаў (Юльян Саковіч, Барыс Рагуля, Лявон Савёнак, Антон Шукелойць і інш.)

У жніўні (або верасьні) 1941 г. у Варшаве адбыўся зьезд партыі, на якім кс.В.Гадлеўскі прапанаваў праект праграмы канспіратыўнай працы. Праект гэты быў прыняты й былі толькі спрэчкі адносна кандыдата на выезд за мяжу. У Лондан павінны былі ехаць кс.Гадлеўскі і М.Абрамчык. Але кс.Гадлеўскі палічыў свой выезд перадчасным. У Швэцыю праз Нарвегію паехаў уздельнік Першага Штурмовага Зьвязу Альберт Асоўскі, які зьвязаўся з беларускай эміграцыяй у ЗША.

У сярэдзіне верасьня 1941 г. Усевалад Родзька арганізоўвае падпольле БНП у Менску. Былыя вязьні бальшавіцкіх турмаў успрымалі яго, як галоўнага арганізатара партыі. Родзька ж правадырства ў БНП кс.Гадлеўскага не раскрываў.

Існавалі й меншыя арганізацыі й групы, якія гінулі, або ўліваліся ў большыя партыі. Газета «Бацькаўшчына» пісала 18 красавіка 1948 г.: «...за часамі нямецкай акупацыі ў падзямельлі існавалі, дзеялі, змагаліся й несьлі ахвяры й іншыя, таксама незалежніцкія партыйныя арганізацыі, а не адна толькі БНП». Міхась Зуй успамінаў, што восеньню 1941 г. да яго прыехаў з Глыбокага былы студэнт Львоўскай палітэхнікі Аўген Аскерка й прапанаваў далучыцца да тайнай арганізацыі беларускіх патрыётаў для барацьбы з польскімі шавіністамі. Што гэта была за арганізацыя - няведама.

**(Працяг у наступным нумары)**





# СТО ДОЛАРАЎ ЗА ГОЛ

## (футбольны агляд)

**У 8-м туры чэмпіянату краіны па футболе першай лігі гарадзенскія каманды прымалі на сваіх стадыёнах лідараў.**

У суботу лідзкі «Абутнік» супрацьстаяў мазырскаму МВКЦ. У першым тайме лідчукі валявымі высілкамі здолелі захаваць нулявы парытэт на табло. А ў другім тэрытарыяльная перавага МВКЦ увасобілася ў 0:3. Не выратавала і самаадданая гульня брамніка абутнікаў Максіма Лычова. Саліраваў на полі мазырскі хаўбек Аляксандр Кульчый, які арганізаваў усе тры галы. Гулец алімпійскай зборнай цалкам спраўдзіў сваю рэактыўную мянушку «Куля». Спачатку Макс Рамашчанка атрымаў мяч зьлева ў свабоднай зоне і безперашкодна прабіў, прычым ня вельмі ўдала, але стрымаць мокры мяч было немагчыма. На 68-й хвіліне Кульчый зрабіў гросмайстарскую верхавую перадачу на Сяргея Яромку і той галавой накіраваў мяч у вольны кут брамы. Яшчэ праз 7 хвілінаў чарговы слаламны праход Кульчыя скончыўся тонкай адпасоўкай направа і Сяргей Гоманаў уклаў у завяршальны ўдар усю душу. Трэба было бачыць радасьць ветэрана (па неафіцыйных зьвестках за кожны забіты гол снайперы мазыранаў атрымліваюць па 100 доляраў). Неўзабаве лідчукі стварылі рэальны момант, калі Сяргей Петрушэўскі трапіў у штангу. На гэтым імпульс матча спаў. Сустрэчы спадарожнічалі моцны дождж і цікавы заўзятарскі антураж. Ліда і Мазыр на сёньняшні дзень маюць на Беларусі найбольш актыўных фанатаў. На гэты раз у Ліду прыехалі тры аўтобусы мазырскай «тарсіды». Пасьля гульні палескія фаны прамаршыравалі пераможным крокам, які суправаджаўся какафоніяй трашчотак і труб.

Днём пазьней гарадзенскі «Нёман» экзаменавала менскае «Дынама». Сустрэча трансьлявалася гарадзенскім тэлебачаньнем (добрая прыкмета 5-га чэмпіянату!) і завяршылася з лікам 3:2 на карысьць сталічных майстроў. Ударны тандэм Бялькевіч-Качура вырашыў лёс гульні і на гэты раз. Зазначым толькі, што ўпершыню ў чэмпіянатах краіны нёманцы забілі «Дынама» два галы (яны на рахунку Бацюты і Саваня). У другой лізе лідар «Кардан Флаерс» нечакана саступіў у гасьцях аўтсайдару - віцебскаму «Лакаматыву» - 0:1. Тым ня менш «лятаючыя карданы» пакуль захоўваюць за сабой першы радок. Важную перамогу ў Пінску здабыў КПФ «Слонім» 3:1 (галы - Татарашвілі, Дацілевіч, Міхалёў). Гарадзенскае «Хімвалакно» расьпісала дома «нулёўку» з жодзінскім «Тарпеда».

У трэцім дывізіёне набірае хаду «Аўтадрот». Што цікава, другі тур запар ахвярамі шчучынцаў становяцца клубы, што займалі на момант спатканьня першае месца. На гэты раз «Аўтадрот» перамог буйна на выезьдзе пінскую «Ніву» 3:0.

Нагадваем, што сёньня пройдуць кубкавыя баталіі на стадыі 1/8 фінала. Матчы з удзелам камандаў вобласьці:

«Шахцёр» (Салігорск) - «Кардан Флаерс» (Горадня)

КПФ «Слонім» - «Фамальгаўт» (Барысаў)

«Дынама-93» (Менск) - «Хімвалакно» (Горадня)

Мяркую, можна разьлічваць на посьпех «КФ» і слонімцаў.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ.**

# СПОРТ АДНЫМ РАДКОМ

У Чэхіі скончылася маладзёжнае першынство Эўропы па веласпорту. У групавой гонцы лепшым з беларусаў быў гарадзенец Сяргей Кот, які заняў... 68-ае месца. Зазначым, што ў гэтым відзе спаборніцтваў бралі ўдзел больш 200 веласіпедыстаў.

* * *

Учора ў Гарадзенскім лядовым палацы распачаліся гульні другога этапа Кубка Беларускай федэрацыі хакею. У турніры, які скончыцца 4 верасьня, лідыруе наш «Нёман».

* * *

Сёньня ў Італіі летнія хакеісты «Рытма» стартуюць ў міжнародным турніры, які стане апошняй праверкай перад адкрытым першынством Украіны. Яно, дарэчы, пачнецца 8 верасьня.

* * *

Трэцяе месца занялі валейбалісты гарадзенскага «Камунальніка» на турніры ў Цярнопалі. За галоўны прыз там спрачаліся 6 камандаў. 7-га верасьня баскетбалісты «Гродна-93» правядуць першую сустрэчу розыгрыша Кубка Корача з польскім клубам «Сталь-Бобрык».

* * *

4 верасьня ў Менску распачне падрыхтоўку да чэмпіянату сьвету па спартыўнай гімнастыцы зборная Беларусі. Кандыдатамі на паездку ў Японію зьяўляюцца і гарадзенцы Іван Паўлоўскі, Алена Саўко і Сьвятлана Тарасевіч. Усе яны нядаўна нядрэнна выступілі на прадстаўнічым міжнародным турніры ў Італіі.

* * *

У гэтыя дні ў Мюнхене праходзіць фінал Кубка сьвету па кулявой стральбе. Сярод яго ўдзельнікаў - алімпійскі чэмпіён 1992 года Канстаньцін Лукашык з Горадні.

**Вітаўт РУДНІК.**



*Гарадзенскія лесьвіцы*

**Фота Я.ВАНЮКЕВІЧА**

# ДНІ ДАМЕЙКІ Ў ЛІДЗЕ

**З 31 жніўня па 2 верасьня таварыства польскай культуры імя Адама Міцкевіча ладзіць міжнародную навуковую канферэнцыю «Сыны Лідзкай зямлі ў гісторыі навукі і культуры XVII-XIX ст.ст.»**

Галоўная ўвага зьвяртаецца на дзейнасьць Ігната Дамейкі. Пад час канферэнцыі мае быць адкрыты музей Ігната Дамейкі ў Крупаўскай школе і ўстаноўлены памятны знак у Запольлі.

На канферэнцыі чакаюцца пасол Польшчы на Беларусі і пасол Чылі ў Польшчы.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

# САМ САБЕ ЛЕКАР

### *КАПУСТА*

Гэта адна з найбольш распаўсюджаных агародных расьлін. Зьяўляецца важнай крыніцай вітамінаў для чалавека, а таксама мінеральных элементаў (у ёй шмат калію, фосфару, ёсьць кальцый, марганец і інш.), цукроў і лёгказасваяльных бялкоў. Багацьце хімічнага саставу вызначае высокую каштоўнасьць капусты як прадукту харчаваньня.

Ва ўмовах Беларусі вырошчваюць розныя віды капусты: белакачанную, чырвонакачанную, савойскую, брусельскую, каляровую, брокалі, кальрабі, пекінскую, лісьцевую.

Па каларыйнасьці белакачанная капуста саступае многім агародным культурам. А вось па наяўнасьці вітамінаў цяжка знайсьці ёй роўных. Мала таго, у соке капусты выяўлены аскорбіген - самы ўстойлівы від вітаміна С, якога ў ёй ў 50 разоў больш, чым у сырой бульбе.

З даўніх часоў вядомы і лекавыя ўласьцівасьці капусты. У краінах старажытнага сьвету яе вельмі паважалі. Выкарыстоўвалі для лячэньня розных хвароб: лячылі сьвежыя раны, хваробы жоўцевага пузыра, вантробы.

«Капуста зьяўляецца гароднінай, якая стала падтрымлівае бадзёрасьць і вясёлы настрой, спакой духа», - пісаў вялікі матэматык і філосаф Піфагор.

Сок капусты прымянялі пры лячэньні язвы страўніка і дванацаціперснай кішкі. Солі калія ўзмацняюць вывядзеньне вадкасьці з арганізму і павышаюць работу сардэчнай мышцы.

Карысныя і салаты са сьвежай капусты, якія ўтрымліваюць вялікую колькасьць вітаміна С і другіх. Прычым унутраныя лісты качана маюць больш вітаміна С, чым вонкавыя. Добра захоўваецца вітамін С і пры правільным квашаньні капусты. Але памятайце, што праз 3 гадзіны яна губляе 33% вітаміна С, за 12 гадзін - 50%, цераз суткі 70%. Таму ўжываць яе трэба адразу.

Квашаную капусту ня трэба трымаць у вадзе перад выкарыстаньнем ці кулінарнай апрацоўкай.

Пакрышаная сырая і кіслая качанная капуста ўзмацняе сакрэцыю страўніка, павышае апетыт, паляпшае працэс страваваньня, нармалізуе працу кішэчніка.

Капусту ўжываюць пры падагры, запорах, як лёгкае слабіцельнае. Народныя лекары лічаць, што сьвежы сок капусты з цукрам дапамагае пры кашлі, зьяўляецца супрацьмікробным і процізапаленчым сродкам. Гэты ж сок прымяняюць пры хваробах селязёнкі, пры жаўтусе, а разам з адварам насеньня капусты - пры бяссоньніцы. Рэкамендуюць капусту пры цукровым дыябеце, атлусьценьні.

Капуста зьяўляецца сыравінай для атрыманьня вітаміна У.

**Іван ДЗЯДОК.**

# ГАЗЕТУ НА ХЛЕБ НЕ НАМАЖАШ?..

**Ад пачатку вясны не выходзіць інфармацыйны штотыднёвік для прыватных землеўладальнікаў «Новая зямля».**

Як паведамілі нашаму карэспандэнту ў Беларускім саюзе фермераў яе заснавальнікі, цалкам верагодна, што газета выходзіць ня будзе. Бо Мінсельгасхарч катэгарычна адмовіўся фінансаваць яе, прызнаўшы гэтую рэч надта дарагой.

Дакладна вядома, што заснавальнікі газеты і кіраўніцтва рэдакцыі зьярталіся да У.Г.Гаркуна - міністра сельскай гаспадаркі, і што нядаўні зьезд аграрыяў прызнаў ідэю выданьня газеты «Новая зямля» слушнай. Тым больш, што газета ня кідала камяні ў агарод палітыкаў, а пісала аб пэрсьпектывах вёскі ў фермерскім укладзе жыцьця, пра сялянскія і фермерскія гаспадаркі як раўнапраўныя формы гаспадараньня на вёсцы, і... ціхенька памерла.

**Пятро ЖЭБРАК.**

# НУМІЗМАТЫ АБ'ЯДНАЛІСЯ

**На пачатку жніўня па ініцыятыве гарадзенскіх гісторыкаў і калекцыянераў у Горадні створана Рэспубліканскае нумізматычнае таварыства. Нумізматыка (навука, якая вывучае манеты і гісторыю грашовага абарачэньня) мае на Беларусі даўнія традыцыі і шмат прыхільнікаў. Але ў адрозьненьне ад суседзяў (Польшчы, Расеі, Летувы) беларускія нумізматы ня мелі сваёй арганізацыі, каардынацыйнага цэнтру, які б зьвязваў паміж сабой калекцыянераў і аматараў нумізматыкі.**

Стварэньне Рэспубліканскага нумізматычнага таварыства толькі на першы погляд падаецца справай невялікага кола людзей, якая ня мае значнай грамадзкай вартасьці, але гэта ня так. На тэрыторыі Беларусі знаходзіліся і знаходзяцца нумізматычныя калекцыі, асобныя манеты, якія могуць упрыгожыць фонды любога нумізматычнага кабінета. Шмат каштоўных старажытных манет, выдатных калекцый, у тым ліку калекцыя пачынальніка нумізматыкі на Беларусі Чапскага, была вывезена за мяжу, многія пад пагрозай вывазу.

Да сёньняшняга дня няма дакладных зьвестак аб нумізматычных калекцыях, якія знаходзяцца ў краязнаўчых музеях, прыватных калекцыях, якія так часта трапляюцца на нашай зямлі. А сярод іх могуць быць сапраўдныя шэдэўры манетнага мастацтва і надзвычай рэдкія старажытныя манеты.

Рэспубліканскае нумізматычнае таварыства ставіць сваёй задачай аб'яднаць аматараў-нумізматаў, пачаць стварэньне банку дадзеных аб каштоўных калекцыях і асобных манет нашай краіны, рабіць выставы, праводзіць семінары па праблемах нумізматыкі і блізкіх да яе дысцыплінах. У планах таварыства на бліжэйшы час - арганізацыя ў Горадні лекцый аднаго з вядучых фалярыстаў і нумізматаў Расеі У.Дурава, правядзеньне выставы экслібрысаў, падрыхтоўка навуковага семінара, прысьвечанага стагоддзю Чапскага і інш.

Таварыства запрашае да сябе ўсіх, хто цікавіцца нумізматыкай ці хоча стаць зьбіральнікам нумізматычнай калекцыі. Адрас таварыства: **230023, Горадня, вул.Кастрычніцкая,6, офіс фірмы «Антыквар». Тэлефон для даведак: 44-17-01.**

**С.КУЛЬ.**

# КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

**СЬЦІПЛЫЯ ПЕНЬСІЯНЕРЫ**

У Кастрычніцкі РАУС Горадні зьвярнуўся пеньсіянер з заявай, што невядомыя на Фолюшы пад пагрозай сілы вымагаюць у яго 2000 доляраў ЗША. Аператыўнымі мерамі абодва злачынцы затрыманы.

* * *

А вось у кватэры па вуліцы Сухамбаева, таксама пеньсіянера, невядомыя выбілі дзьверы і скралі відэамагнітафон, жаночую шубу, амаль 6 млн. рублёў, залатыя рэчы, відэакасеты. Узбуджана крымінальная справа.

**НЯМА НІЧОГА СЬВЯТОГА**

У ноч на 26 жніўня невядомыя ўзламалі дзьверы касьцёлу ў вёсцы Волпа Валкавыскага раёну і скралі 2 крыжа з алтара, крыж для прабачэньняў, 7 чашаў і іншыя рэчы.

**ВАРТАЎНІКОЎ ТРЭБА ЎЗБРОЙВАЦЬ?**

У мястэчку Рось Ваўкавыскага раёну невядомыя з дапамогай газавага балончыка «вывялі са строю» вартаўніка школы і скралі 2 камп'ютары.

**І ЗНОЎ ФАЛЬШЫЎКІ**

І, напэўна, нікуды ад іх ня дзецца. Выпадкаў з іх выяўленьнем становіцца ўсё больш, а якасьць вытворчасьці ўсё вышэй.

23 жніўня ў абменным пункце «Комплекс-банка» сьлесар ВА «Хваля» прад'явіў пяцідзесяцідоляравую купюру, якая выраблена шляхам даклейваньня лічбы «0» на сапраўдную пяцідоляравую.

* * *

У гэты ж дзень у краме «Вішнявец» затрыманы непрацуючы жыхар Горадні, які спрабаваў абмяняць на « зайцоў» падробленую «сотню». Так што, грамадзяне, будзьце пільнымі.

**• УСЁ ЗА АДЗІН РАЗ**

Відавочна так вырашылі для сябе двое хлопцаў, раней асуджаныя, якія ноччу з гаража ў Астрыно ўгналі матацыкл, а з «Жыгулёў», што стаялі побач, прыхапілі аўтамагнітолу. Начныя «рацыяналізатары» затрыманы.

**ЗАВАРОЖАНАЯ ЛІЧБА**

Невядома чаму, але ж сума ў 1000 доляраў ЗША часьцей за ўсё праходзіць па міліцэйскіх зводках.

Жыхар Скідаля заявіў, што ноччу да яго ў кватэру ўварваліся невядомыя і, пагражаючы пісталетам і абрэзам, завалодалі тысячай доляраў ЗША. Прынятымі мерамі затрыманы злачынцы, якія зараз знаходзяцца пад наглядам сьпецкамендатуры.

* * *

А ў Мастах у непрацуючага жыхара горада невядомыя вымагалі таксама тысячу доляраў, але былі затрыманы пры перадачы грошай.

**ІНШАГА ВЫЙСЬЦЯ НЕ БЫЛО**

Не такім ўяўляла сабе канчатак вечару дзевятнаццацігадовая жыхарка Ліды. На кватэры, пасьля сумеснага расьпіцьця сьпіртнога, яе спрабаваў згвалтаваць жыхар Карэліі, раней асуджаны. Каб абараніць свой гонар, дзяўчына выпрыгнула ў акно і з пераломам пазваночніку зьмешчана ў бальніцу.

**ЧЫМ НЕ ЧЫКАГА?**

У рэанімацыйнае аддзяленьне абласной бальніцы са шматлікімі агнястрэльнымі раненьнямі зьмешчаны жыхар Горадні. Высьвятлілася, што яго паранілі каля гасьніцы «Гродна» грамадзяне Турцыі, у якіх канфіскаваны пісталет з двума магазінамі.

**СКОНЧЫЎ САМАГУБСТВАМ**

На лясной дарозе каля вёскі Кожава Карэліцкага раёну ў салоне асабістага «Масквіча» скончыў жыцьцё самагубствам праз павешаньне вадзіцель аднаго з калгасаў.

**Т.ЕЎЧАР.**





ПАГОНЯ
Рэдактар МІКОЛА МАРКЕВІЧ
Заснавальнік: культурна-асьветніцкі фонд "БАЦЬКАЎШЧЫНА"
Адрас рэдакцыі: 230023, г.Горадня, вул.Дамініканская, 1.
Тэлефоны: (0152) 45-29-96, 45-41-83
E-mail: dimos@pagonia.belpak.grodno.by
Газета выдаецца па пятніцах 4 разы на месяц.
Пры передруку спасылка абавязкова.
Індэкс 63124.
Гарадзенская абласная ўзбуйненая друкарня: 230003, г.Горадня, вул. Паліграфістаў, 4.
Заказ 3605
Наклад 8936 паасобнікаў.
Нумар падпісаны да друку 31.08.95, у 16.00